# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №5 (132)
САКАВІК 2013 ГОДА


**“Покліч волі” ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# “ ЭКАНОМІЦЫ – ТАК, ПАЛІТЫЦЫ – НЕ”

**Канец сакавіка, Віцебск і наваколле закіданыя снегам, вясной і не пахне. Дзень Волі–свята, пра якое большыня жыхароў Прыдзвіння ўжо і не ўзгадвае, як не ўзгадвае яна пра свабоду ва ўсіх ейных іпастасях. Прымітывізацыя, катастрафічнае спрашчэнне натуральных чалавечых запатрабаванняў не хвалюе ані ўладу, ані грамадскасць, ані інтэлектуалаў, якія, як ні круці, мусяць быць у горадзе некалькіх універсітэтаў. Але ж, на жаль, чамусьці пра іхнае існаванне ніхто не ведае. Горад Альгерда нагадвае правінцыйную глуш, ад якой не ратуюць а ні “ славянскія базары”, ані тэатры, а ні філармонія, а ні касцёлы з цэрквамі, бо ад гэтага ў першую чаргу ратуе толькі дэмакратыя, нацыянальныя каштоўнасці ды грамадзянскія правы і свабоды, заваяваныя народам.**

Грамадства атамізаванае настолькі, што далей кланавых ці прыватных зацікаўленняў яго ныя памкненні не сягаюць.Прычымкланавасцьтаязаправіла грунтуецца на псеўдакаштоўнасцях, матэрыяльных выгодах ці страху.

Галоўныялюдзіў горадзе – гэта чыноўнікіз прадпрымальнікамі, хаця большыня жыхарства акрамя двухтрох прозвішчаў, якія заўжды на слыху, нікога з мясцовай бюракратыі ці бізнесэліты нават і не ўзгадае. Грамада і ўлада, замкнёныя самі ў сабеіне маюць патрэбы ў дыялогу, дыскусіі, дамовах, кампрамісах, плюралізме…

Маральныя аўтарытэты, валадары думак, выбітныя палітыкі, непадкупныя чынавенства, праўдзівыя журналісты, настаўнікі-асветнікі, грамадскія дзеячы, бацькі-дэпутаты – змагары за народныя інтарэсы, хто назаве іхнія імёны, якія б былі вядомыя значнай часткі тутэйшага насельніцтва? Думаю ніхто. Справа ў тым, што ў сённяшніх умовах яны папросту незапатрабаваныя грамадствам, бо грамадства, у натуральным яго разуменні, тут наогул няма. Не, канечне, нейкі ягоны прывід ёсць, але ж дурню вядома: грамадства, а тым больш грамадзянская супольнасць, як найвышэйшая ягоная ступень, здатная сфармавацца толькі ва ўмовах свабоды, а не па загадзе аблвыканкаму. Выходзіць, калі большасці гэткія неардынарныя асобы непатрэбныя – значыць іх і няма.

Але ці ёсць хаця б тое, што патрэбна? І што наогул патрэбна тутэйшаму чалавеку?

Хто дасць адказ, хто падкажа, звычайнаму жыхару, па самае цемечка зануранаму ў працу й бытавыя праблемы? “ Чалавек сам разбярэцца, бо homo sapiens і homo sapiens… Да таго ж ёсць улада, якая на тое і ўлада, каб ведаць чалавечыя запатрабаванні”, – скажаце вы. Але ўсё 20-е стагоддзе абвяргае гэткія вашыя сцвярджэнні: улада на тое і ўлада, каб вадзіць народ за нос, бо ў яе свае інтарэсы, а ў народа свае. І чым пад меншым кантролем будзе улада з боку народа, тым больш будуць розніцца іхнія інтарэсы. Калісьці Каліноўскіказаў, што “ не народ для ўрада, а урад для народа”. Для каго ён тое казаў, аднаму яму вядома, бо за паўтара стагоддзя тутэйшыя насельнікі, так і не засвоілі простую, але праўдзівую ісціну.

Адзіная тутэйшая патрэба, якая кідаецца ў вочы і не выклікае сумненняў, – гэта праблема грошаў. Хаця, як мне падаецца,тутэйшаму народу ў матэрыяльным плане акрамя нейкага мінімуму, вызначанага нават не імі(я не кажу пра людзей прадпрымальных), патрэбна якраз зусім не многа( большыню 500 даляраў задаволіць па самую макаўку, але ж і таго няма). Яшчэ, вядома,пажаданы нейкія даброты ў плане дасугу, лекавання, адукацыі, але ж галоўнае, каб не чапалі.

Заўважаць спрашчэння свайго існавання да рамак страўніка і нейкіх прымітыўных уцехаў у гэтай дзяржаве не тое,штоне прынята,аленаадварот–гэткае светаадчуванне нават заахвочваецца.

“ Эканоміцы – так, палітыцы – не”, – дзяўбе абывацель, звар’яцелы ад сціплых у параўнанні з цывілізаванымі краінамі, хаця і невераготных раней спажывецкіх магчымасцяў, якія даюць розныя там “ Еўраопты” ды “ Кароны”... І няважна, што дэвальваваны беларускі рубель сягнуў за дваццаць гадоў таких астранамічных вышыняў, што кожны жыхар краіны,стаўшымільянерам, па-ранейшаму застаецца эканамічна залежным ад дзяржавы. Няважна, штобольшасць і пасёння не атрымоўвае паўнавартаснага харчавання, якое б адпавядала патрабаванням сённяшняга часу. Важна, што адзін дзядзька сказаў, што накарміў сваю краіну, і гэтае перакананне праз СМІ ўвайшло ў абывацельскую свядомасць.

А вось тое, што за 20 гадоў у Віцебск не прыйшоў ніводзін буйны інвестар і ніводная буйная фірма, вядомая ў свеце – гэта не важна. Важна, што за гэты час Віцебск і краіна заўважна папрыгажэлі, а вось тое, што гэтая прыгажосць аказваецца недаўгавечнай, нікога не хвалюе( тынкоўка абсыпаецца, тратуарная плітка на вачах псуецца ці нават рассыпаецца ў друз, а асфальт, пакладзены ўвосень, улетку мае ўжо глыбокую каляіну).

Жыццё ператвараецца ў кірмаш фанабэрыі і паказухі і ніхто не думае пра наступствы гэткага заганнага падыходу.

Ты я ж хто думае, пра заўтрашні дзень Бацькаўшчыны, за такія свае крамольныя думкі з прадказальнай заканамернасцю трапляюць на нары: 22 сакавіка былі затрыманыястаршыня абласной арганізацыі БНФ Леанід Аўтухоў і былы кіраўнік гэтай структуры Кастусь Смолікаў. Затрыманне адбылося па надуманным, абсурдным для цвярозага розуму абвінавачванні: яны запрашалі жыхароў Віцебску на мітынг, прызначаны на 25 сакавіка; дзень, у які беларусы адзначаюць чарговую гадавіну ўтварэння БНР. Забароненага ўладамі мітынгу ў гэты дзень, вядома ж, не адбылося, затое па дзіўным сцячэнні абставінаў, на Дзень Волі быў арыштаваны сябра КХП БНФ Сяргей Каваленка. Але цешыць тое, што не звядуцца людзі, якія кожны год будуць нагадваць грамадству пра вытокі сучаснай беларускай дзяржаўнасці, бо любяць Бацькаўшчыну і ведаюць,як зрабіць яе беларускай, дэмакратычнай, праваой і еўрапейскай краінай.

**Рэдактар.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СУД ПРАДОЎЖЫЦЦА Ў ПЯТНІЦУ

**26 сакавіка ў судзе Першамайскага раёну г. Віцебску судовы працэс, які распачаўся над сябрам Кансерватыўнахрысціянскай партыі БНФ Сяргеем Каваленкам, затрыманым 25 сакавіка і звінавачаным у дробным хуліганстве, быў перанесены на пятніцу.**

Актывіста затрымалі нібыта за пераход дарогі ў неналежным месцы, аднак пратакол склалі паводле артыкула Адміністрацыйнага кодэксу аб дробным хуліганстве( брыдкаслоўе і размахванне рукамі).

У судзе Сяргей Каваленка хадайнічаў пра тое, каб працэс праводзіўся пабеларуску, але суддзя адхіліла ягонае хадайніцтва. Апазіцыянер таксама выказаў хадайніцтва пра забеспячэннеягоа адвакатам. Адвакат Сяргея Каваленкі працуе ў Менску і можа прысутнічаць на працэсе ў Віцебску толькі ў пятніцу. З гэтай нагоды суд адкладзены да пятніцы.

Жонку Сяргея Алену Каваленку ў гэты момант суддзя выдаліла з залы за тое, што тая падказвала мужу, да паслугаў якога адваката звярнуцца найлепш.

Каваленкі таксама паведамілі, што напярэдадні затрымання каля іхнага дому дзяжурылі супрацоўнікі міліцыі. Таксама і падчас працэсу ў судзе было багата вышэйшага міліцэйскага кіраўніцтва. А судовая зала была перапоўненая супрацоўнікамі міліцыі ў форме і ў цывільным.

Паплечнік Сяргея Каваленкі па партыі, намеснік старшыні КХП БНФ Юрась Беленькі сказаў наступнае: «Чалавек, які выявіў волю, падняў нацыянальныя сімвала , сам у пэўнай ступені стаў такім сімвалам — сімвалам змагання. І натуральна, што акупацыйная ўлада кінула ўсе сілы, каб гэты сімвал душыць і дэманстраваць гэта іншым. Але чым больш яны гэта робяць, тым больш адваротны эфект. Бо тыя, хто яшчэ сумняваўся ў прыродзе гэтай улады, зараз усё больш і больш разумеюць пра сапраўдныя прычыны нашага палітычнага, эканамічнага і духоўнага крызісу».

**Паводле “ Радыё Свабоды”**

ГЭТА ЦІКАВА

# ПРАВЯДЗЕННЕ ФЕСТЫВАЛЮ ПАД ПАГРОЗАЙ

**Нязменны кіраўнік міжнароднага фестывалю “Славянскі базар у Віцебску”, дырэктар Цэнтру культуры “Віцебск” Радзівон Бас падаў 1 сакавіка заяву на звальненне. Адначасова з ім падала заяву на звальненне і галоўны бухгалтар установы. На думку віцебскіх прадстаўнікоў грамадскасці, неўзабаве могуць быць і іншыя заявы пра звальненне.**

Гэты крок Баса, паводле неафіцыйнай інфармацыі, звязаны з тым, што некаторы час таму яго першым намеснікам замест Вольгі Сальнікавай (жонкі Р. Баса) быў прызначаны намеснік начальніка ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкаму Аляксандар Сідарэнка.

Між тым, пра тое, што дырэктар «Славянскага базару» напісаў заяву на звальненне, у цэнтры культуры “Віцебск” чуюць упершыню. “Радзівон Міхайлавіч на бальнічным. Ён зараз ляжыць у шпіталі. А дзе можна пачытаць, што ён напісаў заяву? Мы ня ў курсе”, – пракамэнтавала падзею Вольга Сальнікава, жонка Радзівона Баса.

“Славянскі базар”, які сваім існаваннем абавязаны шмат у чым менавіта Радзівону Басу.Змена кіраўніцтва фестывалю за тры месяцы да яго пачатку ставіць правядзенне свята пад пагрозу. Сідарэнка, які дагэтуль меў толькі досвед працы па лініі БРСМ і моладзевай палітыкі, уяўляецца абсалютна нераўнацэнная заменай Басу – колькі б крытычных заўваг у адрас апошняга не выказвалі.

На прэс-канферэнцыі ў Менску 15 студзеня Аляксандар Лукашэнка даручыў новаму міністру культуры рэфармаваць фестываль “Славянскі базар”. “ Хацелася б, каб мы там нешта ўбачылі новае. Калі мы бачым на РТР, ОРТ, АНТ, як дублюецца адны і тыя ж артысты з тымі ж заезджанымі пад фанаграму музычнымі кампазіцыямі, я гэта ўспрымаю крытычна. Нам трэба нешта ў гэтым плане рэфармаваць”, – сказаў тады Лукашэнка. Адстаўка Баса адбылася неўзабаве пасля таго, як намеснік старшыні ўраду Беларусі Анатоль Тозік 22 лютага правёў паседжанне аргкамітэту па падрыхтоўцы і правядзенні XXII міжнароднага фестывалю “Славянскі базар у Віцебску”, абмеркаваўшы канцэптуальныя падыходы ў правядзенні фестывалю і праграму яго асноўных мерапрыемстваў. Фестываль запланаваны на 11-17 ліпеня 2013 году, старшынём арганізацыйнага камітэту па падрыхтоўцы і правядзенні фестывалю зьяўляецца Тозік. Сярод асноўных мерапрыемстваў фестывалю – гала-канцэрты адкрыцця і закрыцця, канцэрты майстроў мастацтваў Беларусі, Расеі, Украіны, Саюзнай дзяржавы, XXII Міжнародны конкурс выканаўцаў эстраднай песні “Віцебск - 2013”, XI Міжнародны дзіцячы музычны конкурс “Віцебск - 2013”, Дзень моладзі, тэатральныя і кінапраекты, асобныя творчыя акцыі.

**Ян Сведка**

# АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч Волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Покліч Волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Покліч Волі».***

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# ТАК, АЛЕ НАВОШТА?

**Як сцвярджае афіцыйная прэса, большасць раённых камбінатаў бытавога абслугоўвання насельніцтва ў краіне стратныя. Аднак дзяржава ўсё адно працягвае выдзяляць сродкі на іхнюю падтрымку. З шэрагукамбінатаў вылучаецца адкрытае акцыянернае таварыства "Вітрайбыт", якое па выніках 2012 г. атрымала больш за 400 мільёнаў рублёў чыстага прыбытку.У чым жа сакрэт іхняга поспеху?**

Па мяркаванні аўтара раённай газеты, " галоўны сакрэт поспеху складаецца ва ўмелым кіраўніцтве галіной". Маўляў, усё пачалося з рамонту даху будынка галаўнога Дома побыту і іншых аб'ектаў. У самой арганізацыі працы таксама тады былі праблемы: запазычанасць перад партнёрамі складала каля мільярда рублёў. Дзяржпадтрымка сітуацыі не вырашала, таму пачалі зарабляць грошы самастойна: сталі вырабляць пасцельную бялізну і спецвопратку, арганізавалі пастаўку прадукцыі ва ўсе раёны Віцебшчыны. Прадпрыемства было ўключана ў разнастайныя друкаваныя і электронныя каталогі вытворцаў швейных вырабаў. Заказы пачалі прыходзіць з усіх куткоў рэспублікі. Прадукцыя кравецкага цэха пачала паспяхова канкураваць з пасцельнай бялізнай і спецвопраткай буйных швейных прадпрыемстваў. Канструктары «Вітрайбыта» распрацавалі мадэлі адзення для механізатараў, будаўнікоў, медыкаў, паляўнічых, рыбаловаў…Шыюць таксама падушкі і коўдры з сучаснымі напаўняльнікамі. Усяго ў асартыментным пераліку каля трох сотняў найменняў прадукцыі.

Атрыманы прыбытак дае магчымасць кампенсоўваць страты панесеныя пры аказанні бытавых паслугаў у вёсках раёна.Як зауважае кіраўнік КБО, на вёсцы «бытоўка» апрыёры стратная, бо прыходзіцца улічваць невялікія зарплатывяскоўцаў( стрыжка каштуе 10 - 15 тысячаў рублёў, прыкладна столькі ж – папраўка абутку).

Які за Саветамі па-ранейшаму вызначаюць лепшы КПП. На сёння ў працоўным супернiцтве лідзіруе КПП Шапечына. Да бытавікоў звяртаюцца, каб пашыць ці адрамантаваць адзенне, абутак, зрабіць стрыжку ці прычоску, паставіць новы або паправіць стары плот, замяніць аконныя рамы... За бюджэтныя сродкі "Вітрайбытам" набыты адмысловы універсальны аўтобус, якірэгулярна выязджае на вёскупа заяўкахкліентаў.

Рэмонтам тэлевізараў займаюцца спецыялісты фірмы "Гарант", з якой у «Вітрайбыта» заключаны дагавор кааперацыі.Гэткая ж дамова ёсць і з аб'яднаннем «Лотас», што спецыялізуецца на хімчыстцы або аквачыстцы з ужываннем перадавых тэхналогій. Шчыльна супрацоўнічаюць і з транспартнікамі, і з майстэрнямі па рамонце мабільных тэлефонаў і складанай бытавой тэхнікі. Займаецца камбінат і дробным гандлем у 3-ох гандлёвых павільёнах г. Віцебску.

На першы погляд, прыведзеная вышэй нфармацыя, змушае і мяне пагадзіцца з аўтарам раённай газеты: пры ўмелым кіраўніцтве і арганізацыі працы ў сённяшніх умовах здольныя выжыць нават камбінаты бытавога абслугоўвання насельніцтва. Але навошта?

Калі большыня камбінатаў стратныя, калі праца з вясковымі кліентамі з-за іхняй нізкай плацёжаздольнасці нерэнтабельная, калі КБО дзеля свайго выжывання змушаныя займацца неўласцівымі ім функцыямі, калі самі яны ўжо не ў стане самастойна аказваць увесь спектар запатрабаваных паслугаў, навошта тады захоўваць існаванне гэтай груваздкай структуры. Ці не прасцей было б перадаць аказанне запатрабаваных вяскоўцамі паслугаў прыватным прадпрымальнікам, а 22 КПП перадаць у арэнду альбо ва ўласную маёмасць тым, хто зараз там ужо працуе. Святое месца пустым не бывае, прыватнікі, кожны з якіх займаўся б аказаннем нейкай канкрэтнай паслугі, хутка б занялі гэтую нішу, зняўшы з дзяржавы гэты галаўны боль, з'эканоміўшы немалыя дзяржаўныя сродкі.

Але зноў жа, дзеля гэтага патрэбная палітычная воля. Відавочна, прапанаваныя мной падыходы не сумяшчальныя з вобразам дзяржавы, якая нібыта клапоціцца пра вяскоўае жыхарства. Рэарганізацыя сітэмы бытавога абслугоўвання на вёсцы канчаткова б пазбавілае ці не апошняга заўважнага прыкладу дэклараванага ёю клопату.

**Якаў Дрозд.**

ДУМАЙ ШТО ПІШАШ

# ЗА АБРАЗУ ДА АДКАЗНАСЦІ

**У канцы снежня 2012 г. 39-гадовы жыхар абласнога цэнтра пакінуў нецэнзурнае меркаванне пра асобу знаёмай яму 20-гадовай дзяўчыны на яе старонцы ў сацыяльнай сетцы УКантакце.**

У адказ дзяўчына зрабіла раздрукоўку старонкі і напісала на крыўдзіцеля заяву ў праваахоўныя органы. Пры правядзенні першапачатковай праверкі міліцыі справа аб адміністрацыйным правапарушэнні была спынена, аднак затым у ходзе пракурорскага нагляду адноўлена. Факт абразы пацвердзіўся, у тым ліку самім крыўдзіцелем.

За абразу асобы мужчына прыцягнуты да адказнасці: на яго накладзены накладзены штрафу памеры 500 тыс. рублёў па арт. 9.3 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Беларусі.

**Ян Сведка.**

ТАКІЯ ІНВЕСТЫЦЫІ

# КРОПКА НЕВЯРТАННЯ «ВІТАВІЯ»

Першая ў Віцебску прыватная авіякампанія «Витавиа», падобна, прайшла пункт незвароту-усё падраздзяленні холдынгу ліквідуюцца, а самалёты, сабраныя ў Чэхіі, прададзеныя.

Нагадаем, што ў чэрвені 2011 года старшыня аблвыканкама Аляксандр Косінец, міністр транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь Іван Шчэрба і адзін з заснавальнікаў чэшскай кампаніі «PDW-group sro» Павел Гарадноў падпісалі інвестыцыйны дагавор аб стварэнні на базе аэрапорта "Віцебск" авіятранспартнай кампаніі. Аднак «Вітавія» не змагла расплаціцца за пабудаваныя ў пачатку 2012 года самалёты, а з мая таго ж года супрацоўнікі кампаніі перасталі атрымліваць заработную плату.

Пасля публікацыі «ННВ» аб круцелях віцебскай авіякампаніі і дзіўных паводзінах чэшскага інвестара, афіцыйныя СМІ горада паведамілі, што Гарадноў даслаў на імя Аляксандра Косінца ліст, дзе абяцаў 1 лістападзе аднавіць фінансаванне «Вітавія», а да 19 лістапада прадставіць Віцебскаму аблвыканкаму і Міністэрству транспарту і камунікацый дапрацаваны генеральны план авіякампаніі. Але грошы на рахунку «Вітавія» так і не з'явіліся.

Паводле інфармацыі Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь рашэнне аб ліквідацыі замежнага прыватнага вытворча-гандлёвага унітарнага прадпрыемства «Вітавія Ойл», замежнага прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Вітавія» і замежнага прыватнага ўнітарнага прадпрыемства па аказанні паслуг «Мытна-лагістычная Кампанія Вітавія Карго» прынята 10 снежня 2012 года, а рашэнне аб ліквідацыі замежнага прыватнага унітарнага прадпрыемства па аказанні паслуг «Кіруючая кампанія холдынгу« Вітавія Груп »- 10 студзеня 2013 года. Цікавыя і даты стварэння кампаній холдынгу, якія прыводзяцца ў гэтым дакуменце: аказваецца першай, 29 ліпеня 2011 года, была створана ЗППТУП «Вітавія Ойл», а сама авіякампанія з'явілася толькі 9 верасня 2011 года.

Каб даведацца пра лёс двух самалётаў Let L-410, пабудаваных для віцебскага паветранага флоту, «Народныя навіны Віцебска» звязаліся з «Aircraft Industries» і атрымалі ад прадстаўніка завода наступны адказ: «Самалёты не былі праплачаны. Дагавор скасаваны, самалёты перададзеныя іншым заказчыкам ».

Са слоў былых супрацоўнікаў «Вітавія» Павал Гарадноў абяцаў у бліжэйшы час прыехаць у Віцебск, каб завяршыць ліквідацыю холдынгу і пагасіць запазычанасць па заработнай плаце. Вось толькі да абяцанням «космоакадемика» яны ўжо ставяцца з насцярожанасцю.

У той жа час газета "Праскі экспрэс" паведамляе, што Фонд страхавання укладаў пачынае выплату кліентам «Крэдытнага саюза PDW, Praha» іх укладаў. У сярэдзіне лютага Фонд страхавання укладаў атрымаў ад Нацбанка Чэхіі апавяшчэнне аб няздольнасці "Крэдытнага саюза PDW, Praha" выконваць свае фінансавыя абавязацельствы перад упаўнаважанымі асобамі з захаваннем законных і дамоўных умоў. Паводле інфармацыі гэтага выдання, адзін з фундатараў падаў на дырэктара «Крэдытнага саюза PDW, Praha» Паўла Гараднова заяву ў паліцыю па падазрэнні ў здзяйсненні ашуканскіх дзеянняў у сувязі з дзейнасцю Крэдытнага саюза.

**Сяржук Серабро**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ВЫНЕСЕНЫ ПРЫСУД АБСКАРДЗЯЦЬ

**25 сакавіка ў суду Кастрычніцкага раёну адбыўся судовы працэс над затрыманымі 22 сакавіка актывістамі партыі БНФ Кастусём Смолікавым і Леанідам Аўтуховым. Суд цягнуўся з 11-й гадзіны да 20:45. Затрыманых асудзілі да 5 сутак арышту.**

Кастуся Смолікава і Леаніда Аўтухова, што знаходзіліся ў ізалятары часовага ўтрымання, каля 11 гадзіны прывезлі ў Кастрычніцкі райсуд, ля будынку якога сабралася дзясятка паўтара віцебскіх актывістаў і столькі ж — міліцыянтаў на чале з цэлым начальнікам раённай міліцыі грамадзкай бяспекі Андрэем Івановым.

Кастуся Смолікава і Леаніда Аўтуховавзвінавацілі паводле артыкула 23.34 адміністрацыйнага заканадаўства — за парушэньне парадку арганізацыі і правядзення масавай акцыі. Затрымалі іх у пamяшканьні гандлёвага цэнтру «Эвіком», дзе яны нібыта раздавалі запрашэнні на мітынг, заплянаваны на вечар 25 сакавіка ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў. Заяўку ў Чыгуначную раённую адміністрацыю падаваў спадар Аўтухоў, і ў дзень затрымання ён яшчэ ня меў адказу ад уладаў, хоць спавясціць яго яны мусілі за 5 дзён да меркавання мерапрыемства.

Нягледзячы атое, што напачатку пасяджэння ў залу яшчэ пускалі ўсіх ахвотных, ад першай хвіліны працэсу пачаліся і выдаленні: суддзя Іна Грабоўская загадала вывесці актывісту Пятру Іванову, які гучна павіншаваў яе з Днём Волі.

Гэтак жа суддзя пажадала, каб залу пакінуў чалавек, што здымаў падсудных і прысутных у зале. Але пасля высвятлення структурнай прыналежнасці грамадзяніна( гэта быў міліцэйскі аператар), суддзя, выправіўшыся, дазволіла чалавеку ў цывільным і з відэакамэрай застацца. У адказ на гэткае рашэнне Леанід Гаравы, актывіст руху «За свабоду», напісаў скаргу старшыні суду.

Кастусь Смолікаў на пачатку пасяджэння таксама перадаў суддзі скаргу на тое, што знаходзіўся пад вартай больш за 48 гадзінаў, што зьяўляецца парушэннем адміністрацыйна-працэсуальнага заканадаўства. Затрымаўшы актывістаў 22 сакавіка ў 13.40, супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС мусілі б у той самы дзень перадаць іх справы ў суд.

Старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ Леанід Аўтухоў затрабаваў перакладчыка з расейскай на беларускую мову. Гэткая просьба была прадугледжана: у залі ўжо знаходзіўся перакладчык, настаўнік сярэдняй школы № 10 Юры Самсонаў.

Спадар Аўтухоў таксама затрабаваў час на знаёмства з дакумэнтамі судовай справы. Быў абвешчаны перапынак на паўгадзіны. А потым — яшчэ на дзве гадзіны, бо Аўтухоў пажадаў мець адваката. За гэты час Леанід Аўтухоў, жыхар райцэнтру Гарадок, мусіў недзе пазычыць грошы, знайсці ў Віцебску адвакацкую кантору і заключыць дамову з абаронцам.

А вось Кастусю Смолікаву было адмоўлена ў праве мець абаронцу. Суддзя Грабоўская не задаволіла хадайніцтва адваката аб накіраванні матэрыялаў справы на дапрацоўку, бо пратакол аб правапарушэнні не меўдакладнага вызначэння нормы заканадаўства, якую парушылі актывісты і не ўтрымліваў спісу сведак па справе…

Пасля гэткіх паводзінаў суддзі Лявон Аўтухоў заявіўхадайніцтва пра ейны адвод, бо тая дэманстравала асабістую зацікаўленасць у выніках дадзенай справы, а не ў аб'ектыўным яе даследванні. Суддзя Грабоўская не задаволіла хадайніцтва актывіста, як і наступнае хадайніцтва аб прыпыненні разгляду справы дзеля падачы скаргі на ейныя дзеянні старшыні Кастрычніцкага суда.

Іна Грабоўская далучыла скаргу, падрыхтаваную адвакатам, да матэрыялаў справы, але не перадала яе старшыні.

Прысуд па справе ІнаГрабоўская вынесла ў 20.45, не сыходзячы ў іншая памяшканне для падрыхтоўкі. Лявон Аўтухоў і Кастусь Смолікаў атрымалі пяць сутак арышту.

Сябры Партыі БНФ, якіх па іх меркаванні судзілі з парушэннем нормаў беларускага заканадаўства, маюць намер абскардзіць вынесены прысуд.

**Якаў Дрозд.**

НАША ЎЛАДА

## ЛУКАШЭНКА Ў ЭМІРАТАХ

# ТРОХІ АДПАЧЫВАЕ?

**Яшчэ 14 сакавіка Аляксандр Лукашэнка выправіўся на перамовы з Уладзімірам Пуцінам у Пецярбург. Ад таго часу, па ўсёй імавернасці, яго яшчэ не было ў Беларусі.**

Прычым пасля па ўсіх мерках зацягнутых візітаў у Сінгапур і Інданэзію адбыўся нечаканы пералёт у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты — папулярны зімовы турыстычны маршрут. Па стане на 26 сакавіка кіраўнік Беларусі заставаўся недзе на берагах Персідскай затокі.

На тое, што па дадзеным кірунку дзяржаўны інтэрас можа спалучацца з адпачынкам, сведчыць хоць бы і той факт, што Аляксандра Лукашэнку дагэтуль не прыняў кіраўнік Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, прэзідэнт Халіфа ан-Нахаян. Сустрэў еўрапейскага госця толькі міністр унутраных спраў у рангу віцэ-прэм'ера, а таксама спадчынны прынц Мухамедон бэн Заід аль-Нахаян.

«Такое ўражанне, што ў Эміратах Аляксандр Лукашэнка праездам дахаты, — сказаў радыё «Свабода» палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — І не болей за тое. З Лукашэнкам яшчэ ж 80 чалавек разам. І гэта сведчыць пра тое, што Беларуссю можна кіраваць дыстанцыйна. І, акрамя снежнай буры, у краіне нічога не здарылася», — іранізуе сп. Якаўлеўскі.

Натуральнай задачай азіяцкага турнэ бачыцца не толькі продаж беларускай прадукцыі — прычым, як паказвае прыклад М'янмы, вынік часта неадпаведны пакладзеным высілкам. Галоўнай задачай мог быць пошукінвестараў, гатовых купіць акцыі «Беларуськалія», МТС ці чагосьці іншага, прыдатнага для продажу ва ўмовах, калі краіне трэба знайсці дадатковыя сродкі для абслугоўвання замежнай запазычанасці. У 2013 годзе сумы выплат па замежным доўгу рэкордныя.

Беларускаму грамадству застаецца развесці рукамі і запытацца, чаму працоўны графік галоўнага чыноўніка краіны застаецца напаўпразрысты.

**Мікола Бугай**
**«Наша Ніва»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# НЕ ПАДМАНУЦЦА ПАСЛЯ ЛУКАШЭНКІ

**Выбары без Лукашэнкі з'яўляюцца абавязковай, але недастатковай умовай дэмакратызацыі ў Беларусі, мяркуе лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч.**

25 сакавіка ў Мінску на канферэнцыі "Ідэалы БНР у цяперашні час" Мілінкевіч зазначыў, што апазіцыя "часта канцэнтруецца на рэжыме Лукашэнкі, але рэдка кажа, што будзе пасля яго". "Першыя незалежныя выбары пасля Лукашэнкі могуць канчаткова вырашыць лёс Беларусі. Але думаць, што пасля іх абавязкова ў краіне будзе дэмакратыя, не варта", — сказаў ён.

На думку палітыка, рэйтынг апазіцыі складае 20-30%. "Пасля сыходу з улады Лукашэнкі грамадства будзе расколата. Яно можа паверыць не толькі дэмакратычнаму праеўрапейскаму кандыдату ў прэзідэнты, але і прарасійскаму, які будзе абяцаць танны газ і рост зарплат. На фоне крызісу людзі будуць у першую чаргу думаць пра свае кішэні", — сказаў ён.

Лідар Руху "За Свабоду" мяркуе, што апазіцыі неабходна ясна ўсведамляць сваю адказнасць на выбарах, таму што "падзеі будуць развівацца дастаткова хутка".

Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў са шкадаваннем зазначыў, што беларускае грамадства "ўспрымае апазіцыю толькі ў тым плане, што яна супраць Лукашэнкі". "Апазіцыя не асацыюецца з тым, за што яна выступае. Наша памылка заключаецца ў тым, што мы не можам данесці сваю пазіцыю да насельніцтва ў той частцы, за што выступаем", — заявіў ён.

**БелаПАН**

ЗАМЕЖНЫЯ ПАЕЗДКІ

# ЧАКАЕМ МЬЯНСКІ ВАРЫЯНТ?

**Беларусь прадала ў М'янму 1000 фламастэраў, 4 скрыні гарэлкі і 6 трактароў. І гэта пасля візіту беларускай дэлегацыі, які «перасягнуў усе чаканні».**

Афіцыйныя СМІ падлічылі эканамічны эфект ад сустрэчы кіраўніцтва Беларусі і Інданезіі - 400 мільёнаў даляраў. Амаль тое ж самае казалі пасля паездкі прэм'ера Міхаіла Мясніковіча ў М'янму:

"Падпісаны шэраг міжнародных і міжурадавых пагадненняў. Заключаны новыя кантракты на пастаўку тавараў на агульную суму больш за 200 мільёнаў даляраў. Сярод галоўных кірункаў - пастаўка калійных угнаенняў, аўтатэхнікі, шын, камплектуючых ..."

Мінсельгасхарч распавёў Еўрарадыё пасля гэтага візіту, што жыхары М'янмы пыталіся, што такое хлеб і ці можна яго есці. Што ж, пыталіся пра хлеб - мы паставілі ім хлеб. У 2012 годзе М'янма купіла ў нас хлеба на 100 даляраў.

Што яшчэ мы прадаем у гэтую краіну? Адказ знаходзім на сайце Белстата ў справаздачы па экспарту за 2012 год.

На 1000 долараў мы прадалі туды рознага шакаладу, яшчэ печыва на 100 даляраў, на 200 даляраў гарэлкі - гэта 3-4 скрыні, і на такую ж суму іншых моцных напояў. А таксама 3 валізкі - можа, іх выкарыстоўвалі для перавозкі?

На 1200 долараў прадалі друкаванай прадукцыі, 400 каляндарыкаў, скуранога абутку - на 4200 даляраў, яшчэ тысячу фламастэраў і столькі ж шарыкавых ручак.

Колькі ж прадалі аўтатэхнікі? 6 трактароў за 56 тысяч даляраў. А шын і камплектуючых на 3 тысячы.

Усяго прадукцыі ў Белстата налічылі на 100 тысяч даляраў.

**Віталь Ругайн**
**Еврорадио**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ААН ПАДТРЫМАЛА БЯЛЯЦКАГА

**У сёньняшняй рэзалюцыі Рада ў правах чалавека ААН асудзіла практыку крымінальнага перасьледу праваабаронцаў з-за крыніц паходжаньня іх фінансаваньня.**

«Гэтамоцны сыгнал падтрымкі ад ААН праваабаронцам ва ўсім сьвеце, якім не дазваляюць атрымліваць фінансаваньне, якіх пазбаўляюць легітымнасьці і супраць якіх узбуджаюць крымінальныя справы за іх праваабарончую дзейнасьць» – пракамэнтавала рэзалюцыю Сугайр Бэльхасэн, старшыня Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека.

У прэс-рэлізе з нагоды гэтай рэзалюцыі міжнародныя праваабаронцы падкрэсьліваюць, што яна мае непасрэдная дачыненьне да справы Алеся Бяляцкага, якога, паводле заключэньня Працоўнай групы ААН у справе неабгрунтаваных затрыманьняў, асудзілі ў Беларусі ў парушэньне міжнародных абавязаньняў краіны ня ўмешвацца ў фінансаваньне дзейнасьці недзяржаўных праваабарончых арганізацый.

Рэзалюцыю прапанавала Нарвэгія, да якой далучыліся 62 іншыя краіны. Рэзалюцыя была прынятая шляхам кансэнсусу.

**Радыё Свабода**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ЗАКЛІК ДА САНКЦЫЯЎ СУПРАЦЬ «БЕЛАРУСЬКАЛІЮ»

**Кіраўнік праваабарончай арганізацыі Freedom House заклікаў да санкцыяў у адносінах да «Беларуськалію» і іншых беларускіх канцэрнаў, каб прымусіць Менск вызваліць палітвязьняў.**

Заява прагучала на сэмінары «Амэрыкана-беларускія адносіны: правы чалавека і дыпляматыя», які прайшоў у Джорджтаўнскім унівэрсытэцеўВашынгтоне 25 сакавіка.

Дэйвід Крэймэр заявіў, што рэжым Лукашэнкі працягвае гандляваць зброяй з краінамі-ізгоямі і парушаць фундамэнтальныя прававыя прынцыпы дэмакратычнай дзяржавы, аднак у арсэнале ЗША і Эўразьвязу яшчэ ёсьць нявыкарыстаныя мэтады ціску на беларускія ўлады дзеля таго, каб тыя выпусьцілі зь беларускіх турмаў 11 палітычных зьняволеных і правялі ў краіне дэмакратычныя пераўтварэньні.

Адной з такіх мер узьдзеяньня, паводле кіраўніка Freedom House, можа стаць накладаньне эканамічных санкцыяў на буйныя беларускія канцэрны, у прыватнасьці, на «Беларуськалій».

«Бясспрэчна, прадпрыемства „Беларуськалій" — адно зь іх. Тым ня менш Эўрапейскі Зьвяз таксама павінен перагледзець свае гандлёвыя адносіны зь Беларусьсю ў цэлым, таму што павелічэньне аб'ёму гандлю падрывае эфэкт санкцыяў, уведзеных самім жа ЭЗ. Эўразьвяз зрабіў выдатную працу, што тычыцца санкцыяў, аднак гандаль зь Беларусьсю, гэта значыць — з Лукашэнкам, адбіваецца на эфэктыўнасьці зробленых захадаў».

На думку Крэймэра, Лукашэнка становіць пагрозу ня толькі дэмакратычнаму разьвіцьцю сваёй уласнай краіны, але і міжнароднай супольнасьці, бо ягоны рэжым працягвае пастаўляць зброю ў недэмакратычныя дзяржавы:

«Лукашэнка прадае зброю рэжымам-ізгоям. Існуюць асьцярогі адносна нарошчваньня Беларусьсю збройных арсэналаў, нягледзячы на тое, што краіна адмовілася ад сваіх запасаў ядзернай зброі пасьля распаду Савецкага Саюзу. Мне здаецца, мы павінны быць занепакоеныя адносна таго, што мадэль Беларусі пад кіраўніцтвам Лукашэнкі можа быць узятая за прыклад у іншых краінах. Гэта значыць, што яго рэжым пагражае ня толькі тым, хто жыве ўнутры краіны, але і за яе межамі».

Між тым дырэктар Эўрапейскага аддзелу пры Бюро па пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Дзяржд эпартамэнту ЗША Майкл Уехара, які таксама прысутнічаў на мерапрыемстве, заявіў «Голасу Амэрыкі», што ў сувязі з сытуацыяй, якая склалася, урад ЗША паставіў перад рэжымам Лукашэнкі шэраг простых умоў: «У адносінах зь Беларусьсю абставіны скляліся так, што рэпутацыя беларускіх уладаў настолькі дрэнная, што мы вылучылі шэраг умоў, згодна зь якімі Беларусь павінна пачаць адпавядаць некаторым патрабаваньням, перш чым зь ёй будзе ўсталяваны дыялёг. Беларускія ўлады ведаюць пра тое, чаго мы ад іх чакаем, ведаюць нашы ўмовы. Як толькі яны будуць выкананыя, мы зноў зможам пачаць нармальны дыялёг. Беларусь — адзіная краіна, у якой з-за патрабаваньняў мясцовых уладаў мы былі вымушаныя зьнізіць колькасьць супрацоўнікаў нашай амбасады. У нас нават няма амбасадара ў гэтай краіне, а мець нармальны дыялёг пры адсутнасьці амбасадара адной з краін вельмі складана».

Уехара таксама заўважыў, што з прыходам Джона Кэры на пасаду дзяржсакратара палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі ня зьменіцца:

«Злучаныя Штаты пасьлядоўна заклікалі ўрад Беларусі правесьці ў краіне зьмены ў галіне правоў чалавека, пашырыць палітычную прастору, а таксама ўзмацніць сыстэму стрыманьняў і процівагаў ва ўладзе. З прыбыцьцём Джона Кэры ў Дзяржд эпартамэнт палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі застанецца бязь зьменаў».

**Радыё Свабода**

НАША СПАДЧЫНА

# ДЗЕЯЧЫ БНР БЫЛІ ДЭМАКРАТЫ

**Напярэдадні Дня Волі гісторык і даследчык Беларускай Народнай Рэспублікі Анатоль Сідарэвіч распавеў Еўрарадыё пра тое, хто стварыў беларускую дыпламатыю, чаму ў Маскве дзівіліся наяўнасці белага хлеба ў сталіцы БНР і як свята 25 сакавіка адзначалі нават камуністы.**

**- Гэта праўда, што паўнамоцтвы ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі прызнавалі нават бальшавікі?**

- Так, бальшавікі лічылі яе спраўднай дзяржавай. У рашэнні свайго цэнтральнага камітэта яны неяк пісалі, што "трэба дамагчыся, каб паўнамоцтвы ўрада БНР былі перададзеныя ўраду БССР". Значыць бальшавікі прызнавалі за ўрадам БНР паўнамоцтвы.

- На якія структуры ў рэгіёнах Беларусі абапіралася БНР?

- БНР абапіралася на беларускія рады, якія працавалі ў Магілёве, Гродне, Ваўкавыску, іншых гарадах. Вельмі знакамітая Слуцкая рада, якая ў 1920-м падняла антыбальшавіцкае паўстанне. Гэта былі сялянскія і работніцкія рады. А вось у Койданаве рада нават абвесціла незалежную рэспубліку.

**- Цяпер можна пачуць, калі беларускія чыноўнікі ці нават і афіцыйныя даследчыкі кажуць, што БНР не дамаглася ніякіх вынікаў. Якія ж сапраўды былі дасягненні органаў улады БНР?**

- Адно з іх — БНР стварыла беларускую дыпламатыю! (Анатоль Сідарэвіч паказвае кнігу, што ляжыць на яго ным стале — "Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў. 1914 — 1991 год".)

- Выйшаў першы том пад рэдакцыяй міністра замежных спраў Сяргея Мартынава. І вось у гэтым томе змешчаныя дакументы БНР.

Таксама БНР стварыла беларускае казначэйства, беларускую гандлёвую палату, якая паспяхова гандлявала ў 1918-м годзе з Украінай.

-Калісюды прыйшлі бальшавікі, па Маскве разнесліся чуткі, што ў Мінску ёсць белы хлеб! Але прайшлі 2 тыдні пасля прыходу бальшавікоў і белы хлеб знік, а за ім пачаў знікаць і чорны…

**- Спадар Анатоль, а як людзі, жыхары Беларусі адносіліся да БНР?**

- Вось я маю перад сабой два тамы зборніка дакументаў "Архівы БНР". Паглядзіце колькі тут лістоў ад людзей да ўрада БНР. Людзі звярталіся ў розных справах і атрымлівалі дапамогу. Вось беларусы з Моўчадзі (гэта каля Баранавічаў) просяць кіраўніцтва БНР прысласць ім настаўніка, які б выкладаў у школе беларускую і нямецкую мовы, ды абяцаюць плаціць яму заробак са сваіх грошай.

Паводле слоў Анатоля Сідарэвіча, у БНР было роўнае стаўленне да нацыянальных меншасцяў. У 2-й устаўной грамаце Рады БНР была абвешчаная роўнасць моваў народаў БНР, а ва ўрад былі ўведзеныя прадстаўнікі яўрэяў, расіян, палякаў.

**- А ці ведалі пра Беларускую Народную Рэспубліку ў свеце?**

- Прэм'ера БНР Антона Луцкевіча прымаў прэзідэнт Чэхіі Тамаш Масарык, тройчы прымаў начальнік Польскай дзяржавы Язэп Пілсудскі. БНР прызналі Фінляндыя і Эстонія. Наша вайскова-дыпламатычная місія дзейнічала ў Рызе. Была падпісана дамова аб ўзаемным прызнанні з Літвой. Ураду БНР даваў дзяржаўныя пазыкі ўрад Украіны. Консул БНР Алесь Бурбіс прадстаўляў, дарэчы, абсалютна легальна, інтарэсы беларускай дзяржавы ў Маскве. БНР не толькі ведалі, але і рэагавалі!

**- Можна нярэдка пачуць, што, каб не было БНР, не было б БССР…**

- Нават камісар Рэйнгальд, сябра першага ўрада БССР, казаў, што "калі б не было беларускай рады (гэта значыць рады БНР), то не было б БССР".

**- Але савецкая традыцыя шальмавання ўсяго, што звязана з першай спробай здабыцця беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі, жывеі сёння, ужо ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь?**

- Бальшавізм характэрызуе непрымірымасць да іншадумцаў, да іншых класаў, да іншых рэлігій і ідэалогій. Да гэтага часу людзі не могуць пазбыцца гэтага. Думаць не вузка-групавымі, вузка-сацыяльнымі, а думаць нацыянальнымі інтарэсамі людзі не умеюць. І не хочуць! Яны наўмысна дзеляць грамадства на "сваіх" і "чужых".

Цяперашнія ўлады не могуць маўчаць пра 25 сакавіка, але і адкрыта не кажуць, і не прызнаюць. Анатоль Сідарэвіч нагадвае, што дагэтуль у Мінску няма вуліцы першага прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі Ўсевалада Ігнатоўскага. Няма вуліцы, якая б насіла імя людзей, што сталіся бацькамі беларускай дзяржаўнасці — братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Мала таго, на тым месцы дзе калісьці стаяў дом Луцкевічаў у сталічным Купалаўскім парку выраашана пабудаваць… рэстаран.

( у скарачэнні)

**"Еўрапейскае радыё"**

СПАЖЫВЕЦКІ РЫНАК

# ЯКАЯ ЯНА - БЕЛАРУСКАЯ «ТАННАСЦЬ»?

**«Мы сёння накармілі свой народ, і кошты ў нас значна ніжэй, чым у Расіі і Украіне, у Еўрасаюза, навакольных дзяржаў - значна ніжэй», - заявіў кіраўнік Беларусі ў інтэрв'ю Russia Today. Эканаміст Леанід Заіка, у сваю чаргу, тлумачыць: якая яна - беларуская «таннасць».**

Зусім нядаўна Галоўнае статыстычнае ўпраўленне сталіцы паведаміла, што толькі на прадукты харчавання мінскія сем'і марнуюць 42,4% свайго даходу - амаль палову сямейнага бюджэту.

Цяпер параўнаем менскія і еўрапейскія кошты - рэпартажы на гэтую тэму з'яўляюцца ў беларускіх СМІ ў апошні час рэгулярна.

Літва. Кілаграм свініны ў Вільні, у пераліку на айчынную валюту, каштуе прыкладна 40.000 беларускіх рублёў, у той час як у Менску цана складае 65.800 рублёў. Кілаграм памідораў у Вільні каштуе прыблізна 23.000. У беларускай сталіцы за кіло таматаў прыйдзецца заплаціць прыкладна 46.000, піша Onliner.by.

Кіло цвёрдага літоўскага сыру стаіць у Вільні 63.300, а ў Мінску за гэты ж вага трэба раскашэліцца на 79.000. Нават бульба ў Вільні і тая танней: кілаграм каштуе 2.600 рублёў (на мінскай Камароўцы яе прадаюць за 3.000).

Польшча. Што тычыцца коштаў на прадукты харчавання ў польскім Беластоку і Мінску, то і тут параўнанне не на карысць беларускай сталіцы. Кілаграм свініны ў Польшчы каштуе каля 40 тысяч у пераліку на беларускія рублі (мінскі кошт указана вышэй). 200 грам молатай кавы - каля 30.000 (супраць ўпакоўкі вагой у 250 грамаў, якая ў Мінску абыдзецца ў 120.000), адзначае TUT.BY.

... Параўнальны шэраг можна працягваць, і гэта толькі прывядзе да высновы аб тым, што пры беларускіх заробках, якія значна ніжэй еўрапейскіх, нашы суайчыннікі плацяць за некаторыя асноўныя прадукты ў разы больш, чым еўрапейцы.

«Мы не паедзем у Вільню ці Варшаву»

- Гэта нават не папулізм - гэта спроба супакоіць насельніцтва, якое і так усё бачыць і разумее, - сказаў у экспрэс-каментары для «Салідарнасці» эканаміст Леанід Заіка. - Наколькі яна ўдалая? Каб зразумець, наколькі ў Беларусі «танныя» прадукты харчавання, я бы прапанаваў Аляксандру Рыгоравічу куды-небудзь са мной з'ездзіць. Мы не паедзем у Вільню ці Варшаву. Мы паедзем у Калінінград, дзе кілаграм свініны ў пераліку на беларускія рублі каштуе 4 даляра. А што ў Мінску? Правільна, кіло гэтай самай свініны каштуе 8-10 даляраў.

Не буду вас стамляць эканамічнай тэорыяй. Толькі скажу, што беларусу для таго, каб зарабіць на кіло мяса, трэба працаваць даўжэй, чым літоўцу або паляку. Гэта відавочна.

Тэзіс пра тое, што нехта там «накарміў народ», не тое каб сумніўны, - мінімум спрэчны. Праверыць гэты тэзіс таксама лёгка. Прапаную Аляксандру Рыгоравічу па восені наведацца на дачныя ўчасткі беларусаў. Можна ўзяць з сабой мегафон і расказваць: «Беларусы, мы вас накармілі». Я думаю, што гнаць чалавека з мегафонам гэтыя дачнікі будуць да самай мяжы. Таму што народ, каб неяк перазімаваць, прывык карміць сябе сам, нешта вырошчваць. Гэта зноў жа - з-за беларускай «таннасці».

**Віталь Гарбузаў**

**gazetaby.com**

АСАДЗІ НАЗАД!

# КРЫМІНАЛЬНАЙ СПРАВЫ СУПРАЦЬ ARCHE» НЕ БУДЗЕ

**У завядзенні крымінальнай справы па выніках праверкі ўстановы «Рэдакцыя часопіса „Архэ-Пачатак"» адмоўлена.**

Такую інфармацыю паведаміў 22 сакавіка бухгалтару ўстановы Алене Казловай адвакат, які прадстаўляе інтарэсы рэдакцыі.

Супрацоўнік Упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў па Мінску і Мінскай вобласці Камітэта дзяржкантролю, адказны за праверку дзейнасці ўстановы «Рэдакцыя часопіса „Архэ-Пачатак"», паведаміў, што не ўпаўнаважаны выказвацца на гэтую тэму. У прэс-цэнтры КДК сказалі, што пакуль не валодаюць інфармацыяй на гэты конт.

Калі інфармацыя адпавядае рэчаіснасці, то рахунак установы, які быў заблакаваны з 4 кастрычніка мінулага года, павінен быць разблакаваны.

Нагадаем, што праблемы ў часопіса пачаліся 14 верасня 2012 года з затрымання былога галоўнага рэдактара «Arche» Валера Булгакава.

Супрацоўнікі міліцыі і падатковай інспекцыі затрымалі яго ў Гродне на прэзентацыі кнігі Я. Шумскага «Саветызацыя Заходняй Беларусі» і абвінавацілі ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

21 верасня супрацоўнікі ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў (УДФР) прыйшлі ў друкарню, дзе выдаваўся часопіс, з праверкай. 24–28 верасня з друкарні былі забраныя ўсе дакументы за апошнія два гады дзейнасці часопіса. 2 кастрычніка было арыштавана больш за 5 тысяч асобнікаў кніг з асабістай калекцыі Булгакава.

4 кастрычніка ва УДФР быў выкліканы заснавальнік часопіса «Arche» Андрэй Дынько. Пасля гэтага было прынята рашэнне вызваліць Булгакава ад пасады галоўнага рэдактара «Arche», каб выратаваць выданне. У межах праверкі дзейнасці рэдакцыі Упраўленне ДФР па Мінскай вобласці і г. Мінску вынесла прадпісанне прыпыніць аперацыі па рахунках «Arche-Пачатак», — нагадвае ГА «БАЖ».

Хадайніцтва ГА «БАЖ» аб разблакаванні рахунку рэдакцыі часопіса Дэпартамент фінансавых расследаванняў адхіліў, спасылаўшыся на непрадастаўленне шэрагу патрэбных дакументаў. Прадстаўнікі рэдакцыі, са свайго боку, называюць гэтыя прэтэнзіі беспадстаўнымі.

18 кастрычніка Валер Булгакаў за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць быў аштрафаваны на 500 тысяч рублёў. У пачатку лістапада Булгакаў пакінуў Беларусь, асцерагаючыся крымінальнага пераследу.

**baj.by**

# СПРАВА СУПРАЦЬ ПАЧОБУТА РАЗВАЛІЛАСЯ

**Упраўленне Следчага камітэта Беларусі па Гродзенскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да журналіста польскага выдання «Gazety Wyborczej» Андрэя Пачобута, абвінавачанага ў паклёпе на Лукашэнку.**

«Упраўленнем Следчага камітэта Беларусі па Гродзенскай вобласці завершана расследаванне крымінальнай справы, узбуджанай па ч.2 ст.367 КК Рэспублікі Беларусь (паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, здзейсненая асобай, якую раней судзілі за паклёп) у дачыненні да Пачобута А.С." , — паведамілі агенцтву «Інтэрфакс-Захад» у групе інфармацыі і сувязі з грамадскасцю ўпраўлення СК па Гродзенскай вобласці.

«У сувязі з тым, што высновы лінгвістычных экспертыз разыходзяцца, а ў часе папярэдняга следства не здабыта аб'ектыўных дадзеных, якія пацвярджаюць здзяйсненне Пачобутам дадзенага злачынства, 15 сакавіка 2013 вынесена пастанова аб спыненні папярэдняга расследавання ў сувязі з недаказанасцю ўдзелу абвінавачанага ў здзяйсненні злачынства. Згодна з гэтай жа пастановы абраная ў дачыненні да Пачобута мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе і належных паводзінах адменена «, — удакладнілі ў СК.

«Я даведаўся пра гэта сёння, а 19.04, — расказаў НН Андрэй Пачобут. — Пра закрыццё маёй справы напісаў „Інтэрфакс", пасля ўжо адвакат званіў у Следчы камітэт, дзе сказалі, што мне яшчэ высланае афіцыйнае паведамленне аб гэтым, якое я яшчэ атрымаю». Закрыццё сваёй справы журналіст ацэньвае як палітычнае рашэнне, прынятае пасля таго, як яго не ўдалося прымусіць з'ехаць з краіны: «Мяне тады дэманстратыўна арыштавалі, хоць я быў толькі падазраваны, азнаёміў з вынікамі экспертызы, з якіх адназначна вынікалі і паклёп, і знявага, і многае іншае. Калі б пасля вызвалення пад падпіску я захацеў рушыць куды-небудзь у бок Масквы, мне б, думаю, яшчэ далі эскорт, каб ніхто не спыніў».

Эксперту, на высновах якога грунтавалася абвінавачанне (а гэта дзяржаўны ідэолаг Кізіма), апраўданы Пачобут не мае чаго сказаць: «Гэта марыянеткі, яны кажуць тое, што ім загадаюць».

Пачобут пэўны, што закрыццё яго справы будзе пададзенае беларускімі ўладамі як «станоўчы жэст у бок Захаду».

* * *

Нагадаем, карэспандэнта арыштавалі ў чэрвені 2012 года, але пасля выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Андрэя Пачобута абвінавацілі ў паклёпе на Лукашэнку. Падставамі для абвінавачвання сталі артыкулы Пачобута на сайтах charter97.org і «Беларускі партызан». Яму пагражала пазбаўленне волі на тэрмін да 5 гадоў. Пачобут быў прызнаны вязнем сумлення.

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку** 29.03.2013 у17.20. Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.